Семінары

# Культура патрабуе падтрымкі

***Днямі ў Мінскім міжнародным адукацыйным цэнтры адбыўся семінар "Беларусь на парозе трэцяга тысячагоддзя: культурная прастора". Пра існуючыя праблемы ў гэтай тонкай сферы расказалі член прэзідыума Беларускага таварыства культурных сувязей з замежнымі краінамі Леанід Бароўскі і дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь прафесар Ігар Катляроў.***

Гэты год, як і былыя, на думку ўдзельнікаў сустрэчы, будзе даволі складаным для тых, хто служыць мастацтву. І справа тут не толькі ў матэрыяльных цяжкасцях, якія церпіць інтэлігенцыя. Галоўная на сёння праблема — у фарміраванні культурнай самасвядомасці ў моладзі. Так, паводле даных рэпрэзентатыўнага даследавання, якія прывёў у сваім выступленні старшыня пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу па адукацыі, навуцы, культуры і навукова-тэхнічным прагрэсе Ігар Катляроў, 52 працэнты апытаных беларусаў лічаць, што наша культура знаходзіцца ў найглыбейшым крызісе. Толькі 3 працэнты маладых людзей размаўляюць на беларускай мове ў транспарце і іншых грамадскіх месцах. Гэтыя лічбы характарызуюць неспрыяльныя абставіны ў гэтай сферы. Праўда, прапаноў, якім чынам прывіць любоў да беларускай мовы, на семінары не прагучала. Але неабходна, лічыць Ігар Катляроў, каб кожны беларус ведаў родную мову, літаратуру без прымянення заканадаўчых мер, каб у чалавека была патрэбнасць у веданні сваіх традыцый і класікаў.

Яшчэ адна з праблем датычыцца камерцыялізацыі мастацтва. У мінулым годзе ў абласных гарадах краіны было праведзена даследаванне кінапракату. На той момант у кінатэатрах Беларусі дэманстраваліся 63 фільмы. З іх 60 — амерыканскія і еўрапейскія, і 3 — краін СНД. Самыя папулярныя фільмы — "Тупы і яшчэ тупейшы", "Шалёныя сабакі", "Воўк джунгляў"...

— Сёння кожны другі малады чалавек у рэспубліцы чытае толькі трылеры і дэтэктывы, — працягваў у сваім выступленні Ігар Катляроў. — Сур'ёзнай класічнай літаратурай захапляюцца вельмі нямногія і ёсць нават тыя, хто не прачытаў ніводнай кнігі на беларускай мове.

І ўсё ж, лічаць выступоўцы, беларуская культура жыве і развіваецца. Прычым для больш паўнацэннага існавання — гэта відавочна — ёй неабходна дапамога дзяржавы. Яна павінна стварыць адпаведныя ўмовы, ліквідаваць многія праблемы. І перш за ўсё гэта датычыцца матэрыяльных пытанняў.

Як заверыў журналістаў Ігар Катляроў, з гэтай мэтай камісія, якую ён узначальвае, распрацавала новы праект закона "Аб адукацыі". Неўзабаве ён будзе вынесены на разгляд парламента ў першым чытанні. У новым варыянце закона прапануецца павялічыць асігнаванні на адукацыю ў бюджэце да 10 працэнтаў, вярнуць сацыяльныя льготы сельскім настаўнікам і павысіць іх зарплату да ўзроўню, які б адпавядаў заробкам кваліфікаванага рабочага.

На жаль, матэрыяльная праблема сёння закранула многія ўстановы культуры. І ў парламенце разумеюць: без фундатараў, без дабрачыннасці багатых людзей мастацтва не выжыве. Таму, як адзначыў Ігар Катляроў, у камісіі мяркуецца распрацаваць закон аб ільготным падаткаабкладанні прадпрымальнікаў і бізнесменаў, якія накіроўваюць заробленыя сродкі на развіццё мастацтва, спорту і іншых сфер культуры. Справа ў тым, што сёння мецэнаты, якія аддаюць частку сваіх даходаў на дабрачынныя патрэбы, абавязаны яшчэ і плаціць з іх падаткі. "Гэта несправядліва, — лічыць Ігар Катляроў, — і будзе вельмі крыўдна, калі мы нават у гэтым не знойдзем падтрымкі ў дзяржавы".

**Ігар КАНДРАЛЬ.**

Падлеткі

# Патрэбна дзяржаўная праграма

***Негатыўныя сацыяльныя працэсы больш за ўсё ўплываюць на дзіця. Жаданне хутка стаць моцным, багатым, прыгожым часам паспяхова ўзрошчваецца не без дапамогі "настаўнікаў" лёгкіх заробкаў. Ашуканства, фарцоўка, паборы грошай з малодшых і слабых — з'явы, якія сталі ўжо даволі распаўсюджанымі ў школьным асяроддзі.***

Вучняў, схільных да асацыяльных учынкаў, педагогі, вучоныя адносяць да групы рызыкі. Дзеці рызыкі з-за сваіх псіхафізічных асаблівасцей, сацыяльнай запушчанасці часцей за ўсё не спраўляюцца з навучальнай праграмай, канфліктуюць з бацькамі, настаўнікамі, часта кідаюць заняткі ў школе, папаўняюць рады непаўналетніх з рознымі формамі дэвіянтных паводзінаў. Канчаткова вынік сумны. Колькасць правапарушэнняў сярод школьнікаў расце, г.зн. злачыннасць маладзее.

У крыміногеннае асяроддзе ўцягваюцца малалетнія. Колькасць правапарушальнікаў 11-14-гадовых павялічваецца з кожным годам. Сёння мы гаворым пра выбух дзіцячай безнагляднасці. Для нас сталі звычайнымі дзеці, якія жабруюць на вуліцы, а таксама ў падземных пераходах; дзеці з бацькамі-бежанцамі, якія жывуць на вакзалах; чарада цыган, што абіраюць падарожных. Кожны год дзесяткі тысяч дзяцей уцякаюць з сем'яў, дзіцячых навучальна-выхаваўчых устаноў і становяцца ахвярамі ці ўдзельнікамі злачынстваў. І хаця афіцыйнай статыстыкі дзіцячай безнагляднасці не вядзецца, але, па падліках спецыялістаў, такіх дзяцей — дзесяткі, тысячы.

Сёння існуе ахоўна-абаронная канцэпцыя прафілактыкі негатыўных паводзінаў непаўналетніх.

Асноўныя яе прынцыпы заключаюцца ў тым, што адміністрацыйна-прававыя метады заменены гуманнымі ўзаемінамі з выхаванцамі. Вядучая роля адводзіцца медыка-псіхолага-педагагічнай дапамозе і падтрымцы дзяцей групы рызыкі, карэкцыі і рэабілітацыі непаўналетніх з рознымі формамі сацыяльнай і псіхічнай дэзадаптацыі. Гэты новы, нетрадыцыйны падыход выкліканы сацыяльна-псіхалагічнымі і медыка-біялагічнымі фактарамі. Многія дзеці яшчэ ў дашкольным узросце маюць патрэбу ў дапамозе ўрачоў-педыятраў, псіханеўролагаў, псіхатэрапеўтаў, а асобныя з іх, калі пачынаюць хадзіць у школу, маюць парушэнні асяродзевай адаптацыі. Гэтыя дзеці з-за фізічнай і псіхічнай паслабленасці характарызуюцца дысгарманічным развіццём, паніжанай навучальнасцю і працаздольнасцю.

Відавочна, што дзеці групы рызыкі — не менш трывожная катэгорыя дзяцей, чым дзеці-інваліды, дзеці з анамаліямі ў развіцці. Ім патрэбна наша своечасовая дапамога і падтрымка, і, адпаведна, — дадатковыя фінансавыя выдаткі, якія сёння на гэтыя патрэбы дзяржавай не ўлічваюцца.

Сёння ўстановамі адукацыі назапашваецца некаторы вопыт карэкцыйнай работы і педагагічнай рэабілітацыі дзяцей і падлеткаў групы рызыкі. Спецыялістамі праводзіцца карэкцыйна-рэабілітацыйная работа з дашкольнікамі, дыягностыка дзяцей, псіхалагічная і педагагічная карэкцыя. Працуюць педагогі-псіхолагі, медыка-псіхалагічныя кансультацыйныя пункты. Выкананне праграмы для такіх дзяцей вядзецца пад кантролем псіхолагаў, вопытных педагогаў.

Відавочны факт: у наш час мы павінны больш увагі надаваць мнагадзетным сем'ям, мацярынству і дзяцінству, мець трывалую праграму сацыяльнай падтрымкі анамальнага дзяцінства.

Дзіця выхоўваецца не толькі ў школе, яго фарміруе і навакольнае асяроддзе. Цяпер мы ўсё часцей бачым дзейнасць сацыяльных педагогаў, педагогаў-псіхолагаў. Гэтыя спецыялісты ўвайшлі ў штаты школ зусім нядаўна. Вялікую дапамогу могуць аказаць: тэлефон даверу, служба міласэрнасці, цэнтры сацыяльна-псіхалагічнай і працоўнай адаптацыі дзяцей, дыягнастычны комплекс, прытулак для непаўналетніх і малалетніх дзяцей. Поспехі будуць тады, калі будуць праблемы вырашацца комплексна, на ўзроўні зацікаўленых ведамстваў, органаў сацабароны, унутраных спраў, аховы здароўя і інш. Узаемадзеянне гэтых арганізацый магчыма на аснове адзінай дзяржаўнай праграмы.

**Расціслаў ШЧАСНЫ,**
**настаўнік гісторыі і грамадазнаўства вышэйшай катэгорыі сярэдняй школы №1 Смаргоні, кіраўнік педпрактыкі студэнтаў БДПУ імя М.Танка, кандыдат педагагічных навук,**
**Арцём СМІРНОЎ,**
**студэнт-практыкант V курса гістарычнага факультэта БДПУ імя М.Танка.**

Выхаванне: новыя падыходы

# Радасць узаемінаў

Сацыялагічныя апытанні даюць даныя, якія гавораць самі за сябе: 7,8 працэнта педагогаў абвінавачваюць сям'ю ў тым, што дзіця яна не выхоўвае. У той жа час бацькі не вельмі радасна ацэньваюць дзеянні педагогаў. На якіх жа асновах павінны складвацца ўзаеміны настаўніка і сям'і, каб выхаванне дзяцей было паспяховым і дапамагала ўдасканаленню лепшых якасцей дзіцяці? На гэтае пытанне даў адказ В.А.Сухамлінскі: "Як мага менш выклікаў у школу маці і бацькоў для маральных натацый дзецям, для запалохвання сыноў бацькоўскай "моцнай рукой", для папярэджання аб небяспеках, "калі і далей так будзе працягвацца...", — і як мага больш такога духоўнага абмену з бацькамі, які прыносіць радасць маці і бацьку. Усё, што ў дзіцяці ў галаве, у душы, у сшытку, дзённіку, — усё гэта мы павінны разглядаць з пункту гледжання ўзаемінаў дзяцей і бацькоў. І зусім недапушчальна, каб дзіця прыносіла маці і бацьку адны непрыемнасці — гэта ненармальнае выхаванне".

Сям'я — гэта частка грамадскай сістэмы. Педагог, які працуе з калектывам вучняў, павінен добра сабе ўяўляць тыпалогію сем'яў, паводле каштоўнасных арыентацый. Навошта гэта інфармацыя педагогу? Каб вызначыць, які тып сямейных узаемінаў уплывае на дзіця, яго развіццё, характар, на паводзіны. На думку Макаранкі, "агульны тон сям'і" ўздзейнічае на дзіця незалежна ад аб'ектыўных жаданняў бацькоў, часта нават насуперак гэтым жаданням.

Часам бацькі стараюцца схаваць ад дзяцей свае спрэчкі. Але дзіця вельмі чуйнае да любога праяўлення хлусні і падману. Таму існуе заканамерная сувязь паміж псіхалагічным кліматам і вынікамі выхавання дзяцей: моцная, сапраўды маральная сям'я выхоўвае прамы і шчыры характар.

Першая задача класнага кіраўніка і бацькоў — абараніць дзіця, стварыць умовы для свабоднага развіцця яго духоўных і фізічных сіл. Бацькі і вучань не павінны баяцца расказаць класнаму кіраўніку пра свае трывогі, якія тычацца вучобы альбо развіцця. На сённяшні дзень у дзяржаве практычна здаровыя толькі 14 працэнтаў дзяцей; 50 працэнтаў маюць адхіленні ў здароўі; 35 працэнтаў маюць хранічныя захворванні; стойкія неўрозы назіраюцца ў 20 працэнтаў дзяцей; 3 працэнты вучняў — наркаманы са стажам. Фізічнае здароўе (альбо нездароўе) уплывае на працаздольнасць вучня, яго пазнавальную дзейнасць.

Вось якую работу можна праводзіць класнаму кіраўніку ў гэтым накірунку:

* адукацыя дзяцей, бацькоў па праграме "Здароўе";
* далучэнне да гэтай дзейнасці настаўніка фізкультуры, бацькоў;
* арганізацыя сустрэч з урачамі;
* падрыхтоўка і правядзенне цікавых класных мерапрыемстваў.

Другі напрамак дзейнасці класнага кіраўніка — узаеміны. Увайсці ў сферу ўзаемінаў дзяцей між сабой, дзяцей і бацькоў, зразумець ролю кожнага ў іх, навучыць карэкціраваць узаеміны паміж дарослымі і дзецьмі — найважнейшая функцыя выхавальніка.

Трэці напрамак дзейнасці класнага кіраўніка — спрыянне фарміраванню ўменняў вучняў.

На што трэба звярнуць увагу:

а) на выпрацоўку сумесна з сям'ёй адзінай тактыкі ў развіцці вучэбных уменняў вучня;

б) на правядзенне мерапрыемстваў, якія пашыраюць кругагляд і пазнавальныя інтарэсы вучня;

в) на правядзенне псіхолага-педагагічных кансіліумаў, якія распрацоўваюць праграмы карэкцыі агульнавучэбных уменняў асобных вучняў і ўсяго класа;

г) на арганізацыю класных гадзін па ўдасканаленні ў вучняў вучэбных уменняў і магчымасцяў.

Чацвёрты напрамак дзейнасці класнага кіраўніка — гэта сям'я. Класны кіраўнік павінен памятаць, што пры выхаванні вучня ён уплывае ў першую чаргу на выхаваўчы патэнцыял сям'і. Нам неабходна ведаць, якая сфера матэрыяльнага быцця дзіцяці, які лад яго жыцця. Тут увагу трэба звярнуць на:

* вывучэнне сямейнай атмасферы вучня, характару яго ўзаемінаў з іншымі членамі сям'і;
* псіхолага-педагагічную адукацыю бацькоў праз сістэму бацькоўскіх сходаў, кансультацый, гутарак;
* арганізацыю і сумеснае правядзенне мерапрыемстваў з удзелам дзяцей і бацькоў;
* абарону інтарэсаў і правоў дзіцяці ў так званых цяжкіх сем'ях.

Увогуле, работа з сям'ёй можа стаць крыніцай радасці і задавальнення ад узаемных кантактаў і для класнага кіраўніка, і для бацькоў. Дасягненне такой якасці ўзаемінаў у многім залежыць ад настаўніка, яго пазіцыі, псіхалагічных ведаў, мудрасці.

**Алена ПАНАМАРОВА,**
**педагог-выхавальнік гімназіі №1 Баранавічаў.**

Падзелім іх боль

# Вяртанне ў адну сям'ю

***Ці патрэбны нашаму грамадству людзі хворыя, бездапаможныя (інваліды ў тым ліку)? Добра вядома, як паступілі б з імі ў спаражытнай Спарце ці фашысцкай Германіі. У былой савецкай дзяржаве іх проста хавалі ад людскіх вачэй, імкнуліся нікому не паказваць.***

***У XXI стагоддзі прыкметай цывілізаванасці грамадства лічыцца добразычлівае стаўленне да тых, каму лёс наканаваў пакуты. Праблема чалавека, які не можа рухацца, чуць, бачыць, абслугоўваць сябе, востра перажываецца і абмяркоўваецца ў сучасным свеце. Праводзіцца актыўная работа па змяненні жыццёвай прасторы, каб гэтыя людзі адчувалі сябе раўнапраўнымі членамі грамадства. Аўтатранспарт і падземныя пераходы ствараюцца з улікам патрэб інвалідаў-калясачнікаў, пешаходныя пераходы і бібліятэкі — для інвалідаў па зроку і г.д.***

***Гэта ўсё матэрыяльныя доказы змянення адносін грамадства да праблем хворага, бездапаможнага чалавека. Змяняць знешні свет заўсёды прасцей, чым змяняць унутраны. Цяпер жа мы вучымся сябраваць і навучаць гэтых людзей.***

## Кожнае дзіця можна навучыць

Партызанскі раён у Мінску — адзін з найбольш прамысловых у горадзе. І гэта таксама ўплывае на тое, што тут назіраецца павелічэнне колькасці дзяцей, якія маюць патрэбу ў спецыяльнай кваліфікаванай дапамозе. Вось што гавораць лічбы: у 1996 годзе было 650 дзяцей з асаблівасцямі ў развіцці, а ў гэтым — іх ужо 1464, дзяцей-інвалідаў са 183 чалавек стала 246. Тлумачэнняў такому хуткаму росту шмат: народжаная і набытая дзіцячая анамалія, якая якраз і выклікана неспрыяльнай экалогіяй (Чарнобыль не трэба забываць таксама), родавыя траўмы, інфекцыі ў малым узросце, дрэнныя паводзіны цяжарнай жанчыны, нездавальняючыя ўмовы жыцця дзяцей і г.д. Медыкі заўсёды нас папярэджваюць — лепш змагацца з прычынай, бо яна можа выклікаць невылечную хваробу. Але згадзіцеся — людзей мала трывожыць тое, што ў іх не баліць. І калі, дзякуй Богу, у вашай сям'і такога гора няма, то 10 працэнтаў дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця ад усёй колькасці дзяцей-беларусаў — ці ж гэта не прычына, каб біць у званы?

Жыццё дзяцей-інвалідаў і дзяцей з рознымі адхіленнямі ў развіцці зусім не падобнае на жыццё здаровага дзіцяці. Вельмі часта іх душэўныя пакуты мацнейшыя за фізічны боль, які ім даводзіцца цярпець. Таму ім зусім не патрэбны нашы жаль і перажыванні. Яны хочуць адчуваць нашу ўвагу, разуменне, любоў. Агульнавядома, што чым раней хворае дзіця будзе атрымліваць не толькі медыцынскую дапамогу, але і псіхолага-педагагічную, тым больш эфектыўнымі будуць вынікі.

У Партызанскім раёне існуе цэласная сістэма спецыяльнага навучання і выхавання. Тут навучаюць усіх дзяцей, усіх, незалежна ад дыягназу і складанасці захворвання. У раённую сістэму спецыяльнага навучання ўваходзяць 30 спецыяльных груп у дашкольных установах, 10 школьных дэфекталагічных пунктаў, 27 інтэграваных класаў, 6 інтэграваных класаў першай мадэлі, 2 спецыяльныя класы ў масавых школах, 12 дзяцей навучаюцца на даму па спецыяльных праграмах, школа-інтэрнат № 3 для дзяцей з затрымкай псіхафізічнага развіцця, школа-інтэрнат № 13 для слабачуючых і глухіх дзяцей, а таксама Цэнтр карэкцыйна-развіццёвага навучання і рэабілітацыі.

У спецыяльнай адукацыі, як і ва ўсёй нашай сістэме адукацыі, зараз адбываюцца пераўтварэнні. Рэформа пачалася два гады таму з арганізацыі падрыхтоўчых класаў. Кожнае дзіця вучаць з улікам яго здольнасцей, і Партызанскі раён зараз працуе над стварэннем неабходных умоў. Многае ўжо зроблена. Менавіта таму ў Партызанскім раёне ў канцы сакавіка праводзіўся семінар, дзе разглядаліся пытанні абароны правоў дзяцей з асаблівасцямі развіцця і дзяцей-інвалідаў. Пазнаёміцца з напрацоўкамі педагогаў раёна былі запрошаны М.С.Ціцянкоў, начальнік упраўлення адукацыі Мінгарвыканкама, Т.П.Кунцэвіч, вядучы спецыяліст Міністэрства адукацыі, загадчыкі ўсіх раённых аддзелаў адукацыі горада, В.А.Саут, старшыня асацыяцыі дапамогі дзецям-інвалідам і маладым інвалідам.

Адміністрацыя Партызанскага раёна, якая праводзіла гэты семінар, правільна арганізавала яго работу. С.А.Босая, начальнік раённага аддзела адукацыі, пазнаёміла з раённай сістэмай спецыяльнай адукацыі. Удзельнікі семінара атрымалі таксама пакет дакументаў, каб глыбей асэнсаваць лічбы і факты. Большая частка часу была адведзена наведванню ўстаноў, якія працуюць з дзецьмі. Гэта Цэнтр карэкцыйна-развіццёвага навучання і рэабілітацыі, дзіцячы садок № 260, школа-інтэрнат № 3.

Без эмоцый не абысціся пры расказе аб рабоце гэтых устаноў. Невыносна бачыць пакуты хворага маленькага чалавечка. Цяжка становіцца і ад пачуцця жалю, якое ахоплівае цябе. Сапраўды, людзі, якія заўсёды побач з такімі дзецьмі, заслугоўваюць самай высокай пашаны.

## Арыентацыя на патэнцыял дзіцяці

Нядаўна Цэнтр карэкцыйна-рэабілітацыйнага навучання і рэабілітацыі называўся па-іншаму. З назвай змяніліся і падыходы да працы. Ён стаў цэнтрам, які аб'ядноўвае вакол сябе ўсю спецыяльную адукацыю раёна. Створана сістэма псіхалагічнай, карэкцыйна-педагагічнай, медыцынскай і фізічнай рэабілітацыі дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця па сацыяльнай адаптацыі і інтэграцыі іх у грамадстве. Асноўным прынцыпам, якім кіруюцца ў цэнтры, з'яўляецца арыентацыя не на дэфект, а на патэнцыяльныя магчымасці дзіцяці. Тут створаны банк даных на ўсіх хворых дзяцей раёна. Спецыялісты лічаць, што ранняе выяўленне хваробы і аказанне хуткай дапамогі дазваляе эфектыўна кампенсаваць парушэнні ў псіхафізічным развіцці, папярэджвае эмацыянальную дэфармацыю асобы ў падлеткавым узросце.

Работнікі цэнтра цяпер працуюць па праграме ранняй інтэрвенцыі дзяцей да 3 год. Яны выкарыстоўваюць самыя эфектыўныя, новыя методыкі і тэхналогіі. Ставяць невялікія п'ескі, гуляюць "у казкі", малююць фарбамі, лепяць фігуры з пяску. Усё гэта свайго роду тэрапія, а зараз дзеці асвойваюць яшчэ і фітатэрапію. Яны, гуляючы, вучацца адчуваць наваколле і выяўляць сябе. У цэнтры сабраны багаты вопыт.

Не абмінулі ўвагай тут і бацькоў хворых дзяцей. Створана школа "Вялікая педагогіка Маленькай краіны", дзе бацькі вучацца карэкцыйнай рабоце з дзецьмі. Але не менш важнае ў гэтай школе тое, што ў ёй маці (таты ў асноўным кідаюць сем'і, калі нараджаецца хворае дзіця) могуць супакоіць сваё сэрца і адпачыць ад цяжкіх перажыванняў.

У цэнтры таксама арганізаваны метадычныя аб'яднанні настаўнікаў і дэфектолагаў інтэграваных класаў, лагапедаў дзіцячых садкоў, дэфектолагаў школ, псіхолагаў. Яго спецыялісты дапамагаюць педагагічным калектывам школ прытрымлівацца асобасна-арыентаванага падыходу ў навучанні на аснове псіхадыягностыкі — складаюць індывідуальныя праграмы і рэкамендацыі для работы з дзецьмі.

Цэнтр адкрыты для ўсіх, і ён рады аказаць паслугу ўсім, хто мае ў ёй патрэбу. Пра людзей, якія працуюць тут, а гэта 36 спецыялістаў, я сказала б, што ўсе яны падаліся мне маладымі, жыццярадаснымі, цёплымі нейкімі, да якіх хацелася прытуліцца. Іх дырэктар Людміла Георгіеўна Дрозд кажа, што ў яе не ўзнікае цяжкасцяў з калектывам, няма клопатаў і з падборам кадраў. Пра тое, што стрымлівае часам работу калектыву, тут асабліва шмат не гавораць. Але цяжкасці ёсць. Педагогі цэнтра вельмі клапоцяцца пра кожнае сваё дзіця. У асноўным яны працуюць з дзецьмі з цяжкай формай разумовай адсталасці і камбінаванымі парушэннямі. З пераездам у другое памяшканне яны "страцілі" інвалідаў-калясачнікаў, якія не могуць дабірацца звычайным гарадскім транспартам. Цэнтр мае вострую патрэбу ў транспарце. Патрэбен ён яшчэ і для тых дзетак, якія навучаюцца на даму, бо спецыялісты цэнтра выступаюць супраць падобнай адукацыі, якая яшчэ больш ізалюе дзіця.

## Міласэрнасці вучаць у садку

На нашых педагогаў ускладаецца нялёгкая задача — увесці чалавека-інваліда, чалавека з асаблівасцямі, у наш соцыум. У дашкольных установах і школах дзеці ўжо жывуць і займаюцца разам, у так званых інтэграваных групах і класах. Вопыт, няхай і невялікі, паказвае, што сумеснае правядзенне часу ідзе толькі на карысць і хворым, і здаровым. Адны становяцца дабрэйшымі і больш уважлівымі, другія цягнуцца за мацнейшымі, маюць стасункі з сабе падобнымі. Асноўная ідэя інтэграванай педагогікі — ад інтэграцыі ў школе да інтэграцыі ў грамадстве.

Калі дзеці з інтэграванай групы дзіцячага садка № 206 паказвалі маленькае выступленне, нельга было не заўважыць, як здаровыя спяшаліся паклапаціцца пра сваіх хворых сяброў. Алена Зіноўеўна Ціханава, загадчыца гэтай установы, расказвае, як доўга ёй прыйшлося тлумачыць бацькам і ўгаворваць іх, перш чым атрымаць ад іх згоду. "Страшна, каб гэта ж майму дзіцяці не пашкодзіла", — так бацькі адгароджваліся ад чужых праблем. Цяпер усё інакш. Дзеці-інваліды добра прыжыліся ў садку, іх матулі проста не нарадуюцца. Яны дзякуюць тым людзям, якія навучылі іх дзяцей атрымліваць асалоду ад жыцця.

У 260-м садку — 8 груп, дзве з іх асаблівыя — лагапедычная і для дзяцей-інвалідаў. Работа ў інтэграванай групе будуецца па рэкамендацыях цэнтра. Супрацоўнікі цэнтра тут частыя госці, скажу больш — памочнікі.

Для сваёй спецгрупы ў садку стварылі асобыя ўмовы. За аснову ўзялі методыку М.Мантэсоры. Гэтая жанчына (італьянскі медык-педагог) на пачатку сваёй дзейнасці якраз і працавала з дзецьмі, у якіх былі псіхалагічныя парушэнні. Створаны спецыяльныя развіццёвыя цэнтры, дзе малыя пры дапамозе выхавацеляў атрымліваюць побытавыя і сацыяльныя навыкі. Шмат практыкаванняў па маторыцы рук.

Настаўнікі-пачаткоўцы адзначаюць, што тыя дзеці, якія наведвалі дашкольную ўстанову, лепш паспяваюць, хутка ўліваюцца ў калектыў і больш самастойныя. З улікам таго, што хворых дзяцей у нас з году ў год становіцца ўсё больш, а школа — гэта ў першую чаргу нагрузка на псіхіку дзіцяці, у Партызанскім раёне запланавана (на недалёкую будучыню) увесці ўсеагульную дашкольную карэкцыйна-педагагічную дапамогу. А прыклад 260-га дзіцячага садка стаў добрым прыкладам для пераймання іншымі дашкольнымі ўстановамі. Так мы ўсіх можам навучыць цаніць тое, што маем, — здароўе.

## Мастацтва і спорт — лепшыя лекі

Дырэктар школы-інтэрната № 3 Уладзімір Аляксандравіч Сяксяеў для дзяцей з псіхафізічнай затрымкай развіцця гаворыць, што яго дзеці ніякія не хворыя, а ўсяго толькі педагагічна запушчаныя. Напэўна, ён ведае, у чым справа. Усе нашы дзеці-сіроты, пакінутыя дзеці, сапраўды аслабленыя з-за недахопу бацькоўскай любові. Настаўнікі і выхавацелі інтэрната стараюцца яго запоўніць. Тут не робяць усіх аднолькавымі. Здольнасці кожнага ўлічваюцца пры планаванні заняткаў. У інтэрнаце дастаткова яркіх асоб-настаўнікаў (пачынаючы з дырэктара), якія накіроўваюць працэс навучання і выхавання.

Школа мае свой ухіл — фізкультурна-эстэтычны. Спорт тут любяць. Заняткі праходзяць па секцыях — футбол, валейбол, фехтаванне, лёгкая атлетыка. А на першым месцы ўсё ж — баскетбол. Зборная каманда выпускнікоў інтэрната ўдзельнічае ў гарадскіх спаборніцтвах па баскетболу. Узначальвае секцыю вопытны трэнер-педагог І.З.Смушкевіч.

У мастацка-эстэтычных гуртках займаецца больш за 70 працэнтаў выхаванцаў. Тое, што робяць дзеці, — габелен, мяккая цацка, саломка — можа лічыцца высокай мастацкай творчасцю. У гэтым годзе ў школе быў яшчэ адкрыты харэаграфічны клас, у які адбіралі таленавітых дзяцей з усяго горада.

Настаўнік музыкі В.А.Гравер — асабліва цікавы чалавек. Кабінет ён зрабіў уласнымі рукамі з аднаго матэрыялу — дрэва, і памяшканне ўжо шмат год не патрабуе ніякага рамонту. Настаўнік таксама стварыў сваю арыгінальную сістэму навучання музычнай грамаце. Гэта варта пагледзець!

Пераканацца ў тым, што дырэктар казаў праўду, што ўсе дзеці здольныя, можна было, паглядзеўшы канцэрт, які ладзілі выхаванцы інтэрнатаў № 3 і № 13 для глухіх дзяцей. Ролю вядучага цудоўна выконваў хлопчык, які, дарэчы, займаецца ў гімназіі горада, але які па волі лёсу жыве ў інтэрнаце. Цудоўна выканала песню "Каліна" Г.Шчурко, якая з'яўляецца дыпламанткай гарадскога фестывалю эстраднай песні. Трэці інтэрнат поўны талентаў. Падрыхтаваўшы праграму "Край мой, беларускі край" з удзелам усіх гурткоў, творчы калектыў школы атрымаў першае месца ў пятым гарадскім фестывалі дзіцячай творчасці "Вясёлкавы карагод". Дзеткі з 13-га інтэрната, трэба заўважыць, хораша танцавалі. Адсутнасць слыху — не перашкода для развіцця сваіх здольнасцяў. Глухі і слабачуючы чалавек пры правільным навучанні мае ўсе шанцы стаць паўнацэннай асобай.

## За інтэграцыю

Педагогам Партызанскага раёна можна падзякаваць за тое, што яны робяць дзеля нашай будучыні. Партызанскі раён знайшоў правільны падыход да вырашэння праблем дзяцей з псіхафізічнымі парушэннямі, інвалідаў. Іх больш не ізалююць, а вяртаюць у нашу агульную чалавечую сям'ю. "Больш не будзем адкрываць новых інтэрнатаў і спецшкол, — сказаў на закрыцці семінара М.У.Аўсеец, намеснік кіраўніка адміністрацыі Партызанскага раёна. — Будзем інтэграваць хворых дзяцей у спрыяльныя ўмовы".

Сваю задачу раён бачыць у тым, каб прывіць сваім жыхарам здаровы лад жыцця, навучыць іх беражліва ставіцца да свайго псіхічнага здароўя.

М.С.Ціцянкоў, начальнік гарадскога ўпраўлення адукацыі, дадаў, што мы павінны рабіць усё магчымае, каб хворых дзяцей станавілася менш. А пра тых, што ёсць, мы абавязкова паклапоцімся, бо гэта справа нашага гонару.

**Святлана КІРСАНАВА.**

# Зззяе хараством лясная кветка

Візітоўкай Запрудскай базавай школы Кобрынскага раёна Брэсцкай вобласці ўжо шмат год з'яўляецца адмысловае разьбярства. Упрыгожанне маленькай сельскай школкі сапраўды вядзецца з вялікім размахам. Дастаткова акінуць вокам, каб падзівіцца майстэрству хлопчыкаў з гуртка "Узор", якім кіруе настаўнік працоўнага навучання Аляксандр Сяргеевіч Ліс. Вопытны разьбяр цярпліва перадае непаседлівым, але цікаўным вучням сакрэты працы з дрэвам.

Ціхая гутарка, цеплыня рук і добры позірк чароўна ператвараюць кожную дошчачку, галінку ў ззяючую хараством лясную кветку, а часам і ў цэлы букет.

Школьныя дзверы — гэта казачныя вароты, якія вядуць вас у класныя харомы; вокны ў іх, нібы нафарбаваныя вочкі маладой дзяўчыны — такія ж светлыя і ўпрыгожаныя вейкамі-багетамі.

А рамкі, кухонныя дошкі, вешалкі, лыжкі... — усе тыя маленькія дробязі, з якіх насамрэч і складаецца ўсё наша жыццё, — таксама зроблены і робяцца яшчэ не заўсёды спрытнымі дзіцячымі рукамі.

**Вольга ДУБОВІК.**
**Фота Юрыя БОНДАРАВА.**

Дзіцячая творчасць

# Першы крок у... неба

***Якая карпатлівая і захапляючая гэта праца — канструяваць авіямадэль. А ўзнімаецца яна ў неба, слухаецца тваёй каманды — усе пакуты забываюцца ўмомант.***

***Віктар Катульскі вядзе гурток авіямадэлізму, які працуе ў Цэнтры пазашкольнай работы Ленінскага раёна сталіцы, амаль трыццаць год.***

— Заняткі праходзяць, — расказвае Віктар Іванавіч, — тры разы на тыдзень: у панядзелак, сераду і пятніцу. Але самыя дапытлівыя і старанныя гуртакоўцы не прапускаюць магчымасці заглянуць у майстэрню і ў іншыя дні. Не сядзіцца ім дома.

Прымаем у гурток вучняў у верасні. Гэтаму звычайна папярэднічае арганізацыя дзён адчыненых дзвярэй... Своеасаблівыя ўступныя тэсты. Першым заданнем з'яўляецца пабудова звычайнага паветранага змея. Калі ён паляцеў, пераходзім да другога этапа. На працягу прыкладна шасці месяцаў дзеці працуюць над сваёй першай мадэллю. Тэсты дапамагаюць ім вызначыцца, ці змогуць яны займацца ў гуртку, ці ёсць у іх прызванне. А ўжо на занятках яны вучацца працаваць з матэрыялам, карыстацца інструментамі і станкамі.

А як бацькам даспадобы, што іх дзеці ходзяць у гурток, атрымліваюць там веды і практычныя навыкі. Кожную сераду ў гуртку праходзіць дзень здароўя. З раніцы працуем, а пасля дзеці займаюцца спортам — авіямадэлізм патрабуе належнай фізічнай падрыхтоўкі. Інакш запусціць мадэль будзе складана. Калі пасля заканчэння школы вучні паступаюць у вучылішчы з авіяцыйным ухілам, то яны ўжо маюць уяўленне, што такое самалёт, што такое аэрадынаміка.

За гады існавання гуртка створаны мадэлі, якія заўсёды падтрымліваем у адпаведным стане.

Як шчыра падзяліўся Віктар Іванавіч, пры канструяванні мадэлі выкарыстоўваецца і "шпіёнская" дзейнасць, і ўласная практыка, і творчы падыход.

— Калі трэба — прадаўжае ён, — сядзім над кнігамі, даведнікамі. У асноўным дзеці працуюць групамі. Аднак у кожнага вучня ёсць магчымасць праявіць і свае індывідуальныя здольнасці. Нехта мудруе над прапелерам, нехта ўдасканальвае дэталь, а хтосьці гатовы адразу будаваць мадэль. Працуючы, разам, гуртакоўцы пастаянна раяцца адзін з адным.

Праблем шмат. Засмучае, напрыклад, адсутнасць пляцоўкі для правядзення трэніровак. Займаемся на стадыёне. Даводзіцца ўціскацца недзе ў куток. Праблемы, часам, з матэрыялам. Трэба, каб былі пад рукой заўсёды фанера, клей, плёнка, паліва. Мадэлі працуюць на медыцынскім эфіры або на сумесі газы і рыцыны. А запчасткі гуртакоўцы часам набываюць у Ждановічах на рынку.

Самы адказны перыяд заняткаў у гуртку — трэці этап, калі рыхтуемся выступаць на паказальных спаборніцтвах. У канцы красавіка — пачатку мая адбудзецца адкрыццё сезона 2001 года па авіямадэльным спорце.

Традыцыйна спаборніцтвы для сістэм адукацыі праводзіць гарадскі Дом моладзі. На жаль, з-за шматлікіх цяжкасцей мы не заўсёды маем магчымасць выставіць каманду. Але за дапамогай звяртаемся да знаёмых, бацькоў, стараемся, каб абавязкова паўдзельнічаць у спаборніцтве.

**Сяргей ЗАБАРОНЬКА,**
**студэнт журфака БДУ.**

22 красавіка — Міжнародны дзень Зямлі




# “Хачу бачыць людзей сябрамі жывёл і птушак”

***“Мы, людзі, "асуджаныя" быць прыродазаступнікамі, бо адметай разумнасці была й застаецца любоў да прыроды, невычарпальнасць замілаванага пачуцця да яе.***

***Дзень Зямлі — выдатная магчымасць выявіць і пацвердзіць наша ўдзячнае стаўленне да прыроды, менавіта — дапамагчы ёй. Гэта дзень канкрэтных дзеянняў у абарону навакольнага асяроддзя”.***

Акурат гэтымі словамі з выдатнай прыродалюбнай газеты “Белавежская пушча” вырашыла я пачаць свой расповед пра цікавую экалагічную акцыю “Дзень Зямлі. Беларусь — 2001”, якую правялі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь сумесна з Міністэрствам прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Рэспублікі Беларусь і грамадскай арганізацыяй ”Беларускі зялёны крыж”.

Падведзены вынікі шасці рэспубліканскіх конкурсаў экалагічнай накіраванасці: фота, малюнка і прыкладной творчасці, экажурналістыкі, малога школьнага экалагічнага праекта, аўтараў і выканаўцаў песень і вершаў сярод школьнікаў, на лепшы літаратурны твор. Дарэчы, наша газета давала падрабязную абвестку пра гэтыя конкурсы.

Такога наплыву дзіцячай творчасці Рэспубліканскі экалагічны цэнтр вучняў даўно не бачыў: больш як тры тысячы работ было даслана на конкурсы, сярод іх калектыўныя працы, створаныя цэлымі групамі вучняў (творы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, літаратурныя зборнікі).

Вынікі экалагічнай акцыі “Дзень Зямлі. Беларусь 2001" засведчылі, як шмат у нас цудоўных, таленавітых, творчых дзяцей, нераўнадушных да сваёй зямлі, прыроды, сапраўдных будучых грамадзян.

Па кожным асобным конкурсе было вызначана 15 дыпламантаў. Яны запрошаны на фінал гэтай экалагічнай акцыі, які адбудзецца 27-29 красавіка ў Мінску. Усе ўдзельнікі атрымалі лісты падзякі ад арганізатараў экалагічнай акцыі. Будзе арганізавана выстава лепшых работ дзяцей, некаторыя рэспубліканскія газеты і часопісы прадаставяць юным творцам свае старонкі.

“Святло тваёй душы” — так называўся конкурс экалагічнай журналістыкі. Вось што расказаў нам пра вынікі гэтага конкурсу член журы, кіраўнік майстар-класа, лаўрэат міжнароднай прэміі Генры Форда, рэдактар газеты “Белавежская пушча” **Валерый Дранчук**:

— Гэты конкурс пацвердзіў простую ісціну — галоўнае для дзяцей не перамога, а ўдзел. Каля трох соцень работ было даслана на конкурс, кожную з іх я прачытаў літаральна па некалькі разоў, падкрэсліваючы самыя арыгінальныя, смелыя думкі. Вызначана 15 лепшых, 10 з іх маюць свае намінацыі (за публіцыстычнасць, адэкватны вобраз, смелы пачатак, патрыятызм, гарачыя пачуцці да зямлі-карміліцы і іншыя). Сярод лепшых работ — відэафільм, спецвыпуск клубнай газеты, калектыўны SOS-плакат, рэпартаж у вершах і, канешне, проста звычайныя сачыненні.

Так, праца Дзяніса Давыдава з Вілейкі атрымала прыз за публістычнасць. У яго творы адчуваецца завершанасць, дасканаласць і арыгінальнасць формы. У намінацыі “За адэкватны вобраз” адзначана невялікая работа дзяўчынкі, якая ўявіла экалагічную пагрозу ў вобразе жаночай рукі з залатымі пярсцёнкамі — сімвалам хцівасці, спажывецкіх адносін да прыроды; гэтая рука як бы засланяе прыроду, яе краявіды. Такім вось чынам дзяўчынка паказала чалавечую хцівасць, з-за якой усе беды, і мне падаўся гэты сімвал вельмі ёмістым і адэкватным.

Конкурс экажурналістыкі быў запатрабаваны менавіта з боку тых школьнікаў, якія мараць стаць журналістамі. Ён даў ім магчымасць праявіць свае творчыя здольнасці. Мяне ўразіў хлопчык з Магілёва Максім Кавалёў. Пры дваровым клубе ён пачаў выдаваць “Цікавую газету”, а нам даслаў яе спецвыпуск — “Родны край”. У гэтым выпадку было вельмі важна падтрымаць такі смелы пачатак, праяву сапраўднай волі юнага творцы.

Некаторыя дзеці паспрабавалі свае сілы ў калектыўных працах: у конкурсе ўдзельнічалі 10 школьных газет, даволі цікавых, са сваімі рубрыкамі, малюнкамі, матэрыяламі рознага жанру.

У звычайных сачыненнях шмат слушных думак, якія сведчаць пра культуру, пэўны ўзровень экалагічнай свядомасці дзяцей, іх уяўленне, што такое экалогія, што адбываецца на нашай зямлі, хто вінаваты і якім чынам вырашаць праблемы аховы навакольнага асяроддзя.

Вельмі важна, каб гэтыя дзеці не “згубіліся”. І трэба, каб Міністэрства адукацыі, грамадскія арганізацыі, газеты знайшлі магчымасць сабраць юных удзельнікаў і распачаць з імі працу, расказаць пра тое, што такое экалагічная журналістыка, як арыентавацца на будучую прафесію. Формамі такога збору могуць быць летнік, фестываль, майстар-клас, семінар, школа экажурналістыкі. З гэтымі дзецьмі трэба мэтанакіравана працаваць. І я хацеў бы, каб яны працягвалі пісаць на экалагічную тэму, займацца сур’ёзным даследаваннем, аналізам экалагічных праблем. У нас сёння няма сапраўднай экажурналістыкі. Многія прозвішчы юных удзельнікаў конкурсу я сабраў у камп’ютэры пад адным файлам: хто, адкуль і пра што напісаў. Усе ўдзельнікі конкурсу адчуюць сябе заўважанымі: яны атрымаюць дыпломы II і III ступені, лісты падзякі, пераможцы — прызы, рэтра-камплекты газеты “Белавежская пушча”.

**— “Святло тваёй душы”... Здаецца, што ў самой назве конкурсу гучыць пытанне, на якое патрабуецца адказ. А якое святло дзіцячай душы вас больш за ўсё ўразіла, захапіла?**

— У адной дзяўчынкі была вельмі просценькая думка наконт таго, што прырода наша занепадае, губляе сваю красу і першавобразы. І калі так будзе працягвацца далей, разважае яна, то наша зямля страціць паэтаў, бо яны не будуць мець чым захапляцца.

Школьніца з Мазыра Юля А. піша: “Я хачу бачыць людзей сябрамі жывёл і птушак. Як хочацца, каб у нашым горадзе былі ручныя галубы, вавёркі і каб яны не баяліся людзей”.

Святла многа, але разам з тым гэта святло азмрочана трывогай за стан прыроды, за сваё жыццё у ёй. Так, адна дзяўчынка выказала прадчуванне трывогі за сваіх будучых дзяцей, з-за пагрозы, таго, што чыніцца ў прыродзе зараз.

“Нельга забываць, што зямля без гаспадара — круглая сірата”, — піша адзін з аўтараў. Дзеці ўспрымаюць родную зямлю пакінутай, з сірочым лёсам. Роспачы і трывогі ў іхніх творах шмат, адчуваецца, што многае яны не разумеюць. Гэта натуральна для дзяцей.

**— Можа ў гэтым няведанні і неразуменні некаторых з’яў і паняццяў у нейкай ступені павінны дарослыя?**

— Так, я зрабіў вывад, што, магчыма, і многія настаўнікі не ведаюць, як даваць сваім вучням экалагічныя веды. У большасці работ няма разумення, чаму прырода ў заняпадзе, што да гэтага прыводзіць. Яны вельмі відушчыя, нашы дзеці: прыкмячаюць звалкі, сметнікі ў лесе, тое, што знікаюць птушкі, дрэвы. Яны ўсё гэта бачаць, але не разумеюць, чаму так адбываецца. Пішуць: “Людзі, спыніцеся, людзі, захавайце прыроду!” Лічу, што гэты дзіцячы пасыл не зусім правільны, таму што сённяшні стан прыроды — гэта вынік не заўсёды дальнабачнай палітыкі дзяржавы і безадказнага стаўлення да яе грамадства. Пэўную экалагічную праблему стварае і эканоміка: банкі выдзяляюць грошы на будаўніцтва заводаў, дзяржава адводзіць для іх цудоўнае прыроднае асяроддзе (напрыклад, тое, дзе растуць пракаветныя дубы).

У рэшце рэшт нашых дзяцей трэба выхоўваць грамадзянамі. А грамадзянін павінен разбірацца ў пэўных тэхналогіях абароны нашых прыродных каштоўнасцей, мець дакладнае ўяўленне пра законы, міжнародныя канвенцыі і інш., якія, на жаль, наша краіна часам не выконвае.

Настаўнікі павінны расказваць пра гэта дзецям. Пры знаёмстве з работамі і іх аналізе ў мяне ўзнікла такое адчуванне: нашы вучні аднолькава ўспрымаюць такія паняцці, як радзіма і дзяржава, і не разумеюць, што радзіма — гэта адно, а дзяржава — зусім іншае. Настаўнікам трэба дакладна тлумачыць сэнс гэтых важных слоў і паняццяў.

Вынікі гэтага конкурсу трэба вельмі актыўна “раскручваць”. Чым больш напішуць пра яго, заўважаць юных таленавітых творцаў, тым лепш будзе складвацца іх дзіцячы лёс. У Міністэрстве прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя ёсць аддзел выхавання, які мусіць звярнуць увагу на сваіх патэнцыяльных памочнікаў. Многія грамадскія арганізацыі могуць мэтанакіравана працаваць з гэтымі дзецьмі, стварыўшы пэўныя праекты. Усё залежыць ад энтузіязму дарослых, якога пакуль не стае.

Што датычыць газеты “Белавежская пушча”, то аўтары дасланых работ будуць абавязкова прадстаўлены на яе старонках, і конкурс прадоўжыцца чарговым праектам “Школа экажурналістыкі.

**Ірына КУЛІКОЎСКІХ.**

Дзяніс ДАВЫДАЎ,
вучань сярэдняй школы № 13 Вілейкі,
фіналіст конкурсу экалагічнай журналістыкі “Святло тваёй душы”

# Адзін дзень майго жыцця

## Радкі з дзённіка

### Першы ўрок — фізіка

Я гляджу на старонкі падручніка. Першая, другая, трэцяя. Белыя старонкі, чорныя літары. Калі пачаць іх чытаць, атрымліваюцца словы. Тэма — радыеактыўныя элементы і іх паўраспад. Побач з тэкстам параграфа — схема атама, які расчапляецца на дзве часткі. Тут усё проста. Атам выглядае даволі мірна. Няма нават і напаміну пра смерць.

Мурашы бягуць у мяне па спіне. Я закрываю падручнік і не хачу думаць ні пра што.

— Існуюць тры віды выпраменьвання, — гаворыць настаўнік, — альфа, бэта і гама. “Я ёсць альфа і амега, першы і апошні”, — успамінаю я словы з Бібліі.

Званок.

### Урок другі — мова

Тэма сённяшняга ўрока — лексіка. Вывучаем лексічнае значэнне слова, архаізмы, неалагізмы. Асабліва шмат апошніх. Што ж, з’яўляюцца новыя прадметы, рэчы, з’явы. Для іх патрэбны новыя словы. Настаўніца просіць прывесці прыклады.

Вось прыклады: канцэрагены, мутацыя, анкалагічныя захворванні, радыенукліды. Безумоўна, новыя словы. Можа, трэба растлумачыць іх, прывесці сінонімы? Боль, жах, смерць. Ці патрэбны ім новыя назвы? Смерць і ёсць смерць.

Я намагаюся адагнаць гэтыя думкі.

Званок.

### Трэці ўрок — хімія

Урок нішто сабе. Новая тэма. Металы першай групы галоўнай падгрупы. Тэма нескладаная, вывучалася раней.

Настаўніца просіць адкрыць падручнікі на пэўнай старонцы. Вось яны, аб’екты для вывучэння, размешчаны ў радок. Літый, натрый, калій, рубідый. Побач — цэзій.

Мурашы зноў папаўзлі па спіне. Мне неяк не па сабе, я адварочваюся і гляджу ў акно.

Званок...

### Чацвёрты ўрок — літаратура

Цудоўнейшы твор выдатнага пісьменніка — “Людзі на балоце”. Васіль, Ганна, іх светлае пачуццё, іх няўдачы. Калектывізацыя, калгас. Можна даведацца шмат пра што з былога.

Ці мог нават думаць Іван Мележ, калі пісаў сваю хроніку, што праз столькі часу яго нашчадкі ўжо не змогуць жыць на тым Палессі, якое ведаў ён, што яны не будуць купацца ў Прыпяці і карыстацца дарункамі пушчы. Ён не ведаў, што сімвалам новага Палесся стане чорна-жоўты кружок.

Такое адчуванне, што мне не хапае паветра.

Званок...

### Пяты ўрок — гісторыя

Другая сусветная вайна. Гэта вайна была, напэўна, самай крывавай і страшнай. У нас загінуў кожны чацвёрты.

Я гляджу на карту. Вось Брэсцкая крэпасць, вось Мінск, Магілёў. Далей — Масква. На карце шмат розных рысак, стрэлак і знакаў. На карту нельга перанесці боль, жах і кроў людзей, мільёнаў людзей, якія навек засталіся ў зямлі.

Кожны чацвёрты... А што адбываецца зараз? Які там у нас натуральны прырост? А колькі людзей пакутуюць ад раку? Што гэта — вайна? Супраць каго ваюем мы на гэтай неаб’яўленай вайне? Можна зразумець адно — мы ваюем за выратаванне ўласнага жыцця.

Званок...

Скончыўся яшчэ адзін дзень.

Дамоў я іду праз лес. Так ужо здарылася, што абавязковымі атрыбутамі лесу зараз з’яўляюцца апошнія дасягненні нашай цывілізацыі. Вось яны — банкі, бутэлькі, пакеты. Я ўслаўляю прагу чалавека да ведаў і не супраць прагрэсу, але ці ж патрэбен такі прагрэс?

Мяне суцяшае адно — ёсць людзі, якім, як і мне, не ўсё роўна, якія будуць старацца, каб не знікла больш ні адно цудоўнае месца ў нашым бары ці на беразе нашай сінявокай Віліі.

Згадваюцца словы Пімена Панчанкі:

...Я не цар, не Бог.
Сёння я маліўся з баравінаю,
Каб струмень крынічкі не засох,
Каб зямля не стала дамавінаю...

Ідучы дамоў, я праходжу каля кучы смецця, з-пад якой прабіваецца кволы парастак. Гэта прыводзіць мяне да думкі: прырода выжыве, адолее ўсё. А ці зможа чалавек выжыць у тых умовах, якія сам стварыў? Не ведаю. Можа здарыцца, што гэта вайна стане для яго апошняй.

Літаратурны працэс

# Успомніць першародны сэнс слова

***Андрэя Федарэнку няма патрэбы лішні раз прадстаўляць аматарам літаратуры дый усёй культурнай грамадскасці. Аўтар шэрагу таленавітых празаічных твораў, самы малады пісьменнік, уключаны ў хрэстаматыі для розных класаў, удзельнік легендарнага аб‘яднання 80-х “Тутэйшыя”, прадстаўнік нашай краіны ў еўрапейскім “Літаратурным экспрэсе - 2000”... Фармальная нагода для інтэрв‘ю — з‘яўленне ягонай хрэстаматыйнай аповесці “Шчарбаты талер” у перакладзе на рускую мову ў расійскай кніжнай прасторы — стала падставай для сур‘ёзнай размовы на самыя розныя, у тым ліку каляліттаратурныя і каляшкольныя, тэмы.***

**— Андрэй, ты — самы малады аўтар, уключаны ў школьныя хрэстаматыі... Як пачуваешся ў гэтай ролі — ролі “хрэстаматыйнага пісьменніка”? Ці думаў калі-небудзь, што патрапіш у школьныя падручнікі? Як ставіўся сам у дзяцінстве да хрэстаматый?**

— У дзяцінстве для мяне кожны пісьменнік быў не зямной, зусім не такой, як усе астатнія людзі, істотай; школьная хрэстаматыя таксама здавалася нечым вечным, непадлеглым крытыцы — як, скажам, для верніка Святое пісанне. Дужа я тады быў малы, наіўны і чысты... Канечне, і не марыў, што сам некалі патраплю ў хрэстаматыю. Адгалоскі дзяцінства жывучыя, таму і пачуваюся ў ролі “хрэстаматыйнага аўтара” двяака. Наколькі гэта прыемна, настолькі ж і небяспечна. Справа ў тым, што ў хрэстаматыю можа ўвайсці адзін, ад сілы некалькі твораў, да таго ж твораў часта не лепшых, “прахадных”. Разумееш? Школьнік, ці гімназіст, ці студэнт чытае або прабягае тэкст вачыма, і ў яго складваецца думка, што цяпер ён ведае, які перад ім пісьменнік, і ён можа ніколі ў жыцці больш не чытаць яго. А між тым лепшае засталося якраз “за бортам” хрэстаматыі.

**— Табе самому вядома (магчыма, па выступленнях або па лістах, якія ты атрымоўваеш), як успрымаюць тваю творчасць школьнікі? Той жа “Шчарбаты талер”, уключаны ў кнігу для пазакласнага чытання ў 5 класе “Ветразі”...**

— Думаю, што ўспрымаюць маю творчасць гэтак сама, як і творчасць любога іншага пісьменніка, — па-рознаму. Камусьці яна падабаецца, камусьці не. Так і павінна быць. Калі ж канкрэтна, адзін хлопчык з другога класа, помню, назваў у газеце “Книжный мир” мой “Талер” сваёй любімаю кнігаю... Было пісьмо ад дванаццацігадовай дзяўчынкі (друкавалася ў часопісе “Бярозка”), з такімі словамі: “Ваша кніга для мяне з‘яўляецца інцыклапедыяй лета” — так і напісала, мілая дзяўчынка, праз “і”...

**— А як нарадзілася ідэя перакласці “Шчарбаты талер” на рускую мову і падарыць яго расійскім чытачам? Хто тут каго знайшоў — ты выдаўца або выдавец — цябе? І наогул, ці не мог бы ты расказаць (вядома, наколькі гэта магчыма) пра знешні бок справы (выдавец, наклад, умовы распаўсюджвання кніжкі і г.д.)?**

— У апавяданні А.Аверчанка ёсць эпізод, дзе размаўляюць два эмігранты. “Што да мяне, то я не прападу, — кажа адзін. — Знайду якога-небудзь багатага дурня-грэка — разам справу і абцяпаем!” Праз нейкі час сустракаюцца: “Ну што, знайшоў дурня-грэка з грашыма?” — “Не, — адказвае, адводзячы вочы, — дакладней, ён знайшоў мяне, дурня...”. Калі ж сур‘ёзна, то ёсць у нас у Мінску такое выдавецтва, “Сучасны літаратар”. Гады два таму яно пачало выпускаць серыю кніжак на рускай мове — “Дэтэктыў для дзяўчынак і хлопчыкаў”. Мне паказалі некалькі кніжак гэтай серыі, прапанавалі выдаць свой “Талер”, паабяцалі нават паслугі перакладчыка. Але я ўзяўся перакладаць сам. Увесь працэс, дарэчы, ад здачы рукапісу да выхаду кнігі заняў цэлы год, але нарэшце яна выйшла, пад крыху зменнай назваю — “Тры талеры”, накладам у 10100 асобнікаў. Адносна ўмоваў распаўсюджвання магу сказаць толькі тое, што прадавацца кніжка будзе, здаецца, толькі ў Расіі. На апошняй старонцы там пазначана: “Книги издательства АСТ можно заказать по адресу 107140, москва, а/я 140, АСТ — “Книги по почте”.

**— Наколькі я ведаю, раней твае творы перакладаліся ўжо на замежныя мовы; твая класічная, не пабаюся гэтага слова, “Бляха” ў перакладзе на англійскую друкавалася нават у амерыканскім “Ікарусе”... Вось калі параўнаць адчуванні, напрыклад, тое (у сувязі з “Бляхай”) і цяперашняе (у сувязі з “Талерам”), дык дзе больш радасці, здзіўлення, спадзявання на чытацкае разуменне?**

— Гэтыя адчуванні нельга нават і параўноўваць. Калі я друкаваўся ў Амерыцы, я быў аўтарам адзінай маленькай кніжкі з чатырма апавяданнямі... І раптам пасыпалася. Адзін ліст з Амерыкі, другі, пасля разавы кантракт, пасля нейкія анкеты, пасля гранкі апавядання, загаловак якога пераклалі на англійскую мову з трыма варыянтамі зносак, пасля копія чэка на 250 долараў з банка на Манхэтэне, пасля і самі долары (у той час, здаецца, у 95-м, Дзяржаўная прэмія Беларусі была меншая за гэтую суму)... Усё гэта было так нова, так незвычайна... На нейкі час нават узнікла ілюзія калі не славы, дык прызнання, поспеху; усё гэта так нагадвала міраж пісьменніка “сапраўднага”, вядомага, аблашчанага поспехам, — міраж, які мы назіраем, скажам, у заходніх фільмах: стаіць сабе ў беласнежнай кашулі і шортах, у цёмных акулярах, на фоне мора і ўласнай яхты, адной рукой абдымаючы дзяўчыну-прыгажуню, другой падпісваючы направа і налева кантракты які-небудзь французскі ці амерыканскі шчаслівчык-выскачка...

Цяпер нават шкада троху, што ўсё закончылася гэтак хутка і па сутнасці нічым.

**— Давай цяпер па парадку. Першае — радасць. Наогул ты задаволены канчатковым рускім варыянтам аповесці? І ў сэнсе якасці перакладу (так, пераклад — твой, уласны, і ўсё-такі?), і ў сэнсе мастацкага афармлення, дый ва ўсіх астатніх сэнсах?**

— Асабіста мне рускі варыянт падабаецца нават больш за арыгінал. Перакладаць было лёгка і цікава. Ніякіх чарнавікоў, толькі кніга і камп‘ютэр, ну і слоўнік, вядома. Я дазваляў сабе падурэць — напрыклад, гэтак ажыўляючы дыялогі: “Места, сказал, у вас там истерические!” (гаворыць напалоханая бабулька галоўнай гераіні). — “Исторические”, — папраўляе ўчастковы. У беларускім варыянце такой гульні слоў не было. Наконт мастацкага афармлення гэта лепшая з маіх (усяго трох) кніг. Што датычыць “астатніх сэнсаў”... Здагадваюся, што ты маеш на ўвазе сэнс грашовы. Мне заплацілі роўна столькі, колькі і за арыгінал — выдадзены ў “Юнацтве”. Відаць, гэта справядліва. Аповесць жа я пісаў амаль год, пасля яшчэ два кніга рыхтавалася да выдання. А на пераклад пайшоў усяго адзін месяц.

**— Другое — здзіўленне. Я не выпадкова хацеў бы спытаць пра гэта... Здзіўленне творчага характару — непазбежны спадарожнік таго, хто перакладае, і таго, хто чытае пераклад, асабліва калі ён добра ведае абедзве мовы, перакладную і арыгінальную. А ў цябе, Андрэй, якраз такі выпадак. Калі, урэшце, ты здзіўляўся больш: у працэсе перакладу або тады, калі ўбачыў сябе на рускай у гатовым выглядзе, у выглязе выдадзенай кніжкі?**

— Я дарагі Мікола, на жаль, знаходжуся якраз у тым, не зусім прыемным для пісьменніка, узросце, калі развучваешся здзіўляцца наогул чаму б там ні было. Ды веру — гэта, па-руску кажучы, “блажь”, гэта часовае. Гэта пройдзе. У літаратуры я ўжо чатырнаццаць гадоў, калі лічыць ад года з‘яўлення ў друку першага апавядання, а здаецца, што нічога сапраўднага яшчэ і не было, што я толькі-толькі пачынаю намацваць сваю дарогу і штосьці, добрае, галоўнае, значнае — наперадзе...

**— Трэцяе — спадзяванне на чытацкае разуменне, прызнанне і водгук. Ці зможа, на твой погляд, зацікавіць расійскага чытача багаты і, дарэчы, чыста нацыянальны культурна-гістарычны каларыт тваёй аповесці? Або ў гэтым выпадку ты робіш стаўку выключна на ейны прыгодніцка-дэтэктыўны элемент?**

— Тут дарэчы будзе прывесці цалкам (прашу прабачэння за нясціпласць) анатацыю да кнігі: “Эта приключенческая повесть перенесет читателя на живописные просторы Беларуси, где во время летних каникул ее юные герои заняты поисками (весьма опасными для жизни) клада. Лиризм повести, ее мягкий юмор, белорусский колорит никого не оставят равнодушными, помогут понять глубину души простого, бесхитростного и талантливого белорусского народа”. (Звярні ўвагу на таўталогію “простой — бесхитростный”.)

Разам з тым я не настолькі наіўны, каб разлічваць на нейкае імгненнае “прызнанне”, “разуменне” і інш. Хутчэй за ўсё кніга кане ў бяздонную Лету расійскай маскультуры, “літаратурнай папсы”, як я яе называю.

**— Наша прыгодніцкая літаратура мае багатыя традыцыі. Янка Маўр, Уладзімір Караткевіч, Леанід Дайнека, Кастусь Тарасаў... цяпер вось Андрэй Федарэнка. Андрэй, я правільна выбудаваў гэты ланцужок? Ці ты б хацеў назваць яшчэ каго-небудзь з пісьменнікаў такога жанру, хто выклікае ў цябе павагу і каго ты лічыш сваім настаўнікам? Магчыма, не толькі з беларускіх...**

— Адразу зробім папраўку — дзіцячая прыгодніцкая літаратура. У Караткевіча, акрамя “Чазеніі”, нічога больш у гэтым плане і не ўспамінаецца, Дайнеку і Тарасава таксама наўрад ці можна назваць пісьменнікамі “дзіцячымі”... Застаецца Маўр. Дзіўна: у дзяцінстве я



вельмі шмат чытаў беларускай літаратуры, але ў памяці чамусьці засталіся Гюго (“Бюг Жаргаль” я прачытаў у чатыры гады), Твэн, Уэлс, Дзікенс, Конан Дойл, Майн Рыд — дарэчы, нядаўна, паспрабаваў перачытаць ягонага “Безгаловага вершніка” (менавіта так раман перакладаецца даслоўна) і проста жахнуўся... З рускіх — Рыбакоў, Драгунскі, Гайдар. Я вельмі люблю амерыканскую літаратуру: Эдгар По, О. Генры; М.К. Ролінгс — яе кніга “Аднагодкі” са мною ўсё жыццё, я чытаў яе ў шэсць гадоў, у шаснаццаць, у дваццаць шэсць, чытаю цяпер — і ўсё з аднолькавым пачуццём захаплення і зайздрасці... Люблю “Знесеных ветрам” — не бяздарны фільм, а цудоўны раман, хоць і не разумею прыкрага промаху Мітчэл — Рэт жа ніякім чынам не мог ведаць, што Скарлет застрэліла янкі! І самае цікавае, што менавіта на гэтай памылцы Мітчэл пабудаваны працяг — “Скарлет” Рыплей!

**— Андрэй, табе ўжо вядомая якая-небудзь рэакцыя расійскіх чытачоў?**

— Абсалютна ніякай. Як раскупляецца кніга і ці раскупляецца наогул? Як чытаецца?.. Не будзем забываць, што многія, тым больш дзеці і падлеткі, наогул мала ўвагі звяртаюць на прозвішча аўтара.

**— Дарэчы, а ці ўключаны ў пераклад тыя ўрыўкі, якія былі выразаны пры выданні беларускага варыянта па цэнзурных меркаваннях? І ці не баішся ты, што закранеш якіясьці велікароскія стрункі, якія, як ні круці, жывуць у душы (ці падсвядома) ледзь ці не ва ўсіх расіян?**

— Ну вось і прыехалі... Цэнзура “Юнацтва” была дзіцячым лепетам у параўнанні з рускамоўным выданнем. Восем (!) салідных кавалкаў тэксту мне прапанавалі прыбраць, у тым ліку і вядомы, звязаны з нацыянальнай сімволікай, які, дарэчы, у “Юнацтве” выкрэслілі не столькі па ідэалагічных прычынах, колькі па мастацкіх. У рускім выданні знік, напрыклад, такі сказ: “Оксана легко могла переходить с одного языка на другой”, у сэнсе з беларускай мовы на рускую, і наадварот. Навошта спатрэбілася гэты эпізод прыбіраць? Не здагадваешся?

Маім велікаросам-цэнзарам і хацелася, і калолася. Калі б я іх паслухаўся і зрабіў усе восем купюр, аповесць проста рассыпалася б; там жа ўсё пабудавана, калі памятаеш, на аднолькавым гучанні слоў з трох моў: беларускай, рускай і французскай, і ключом да разгадкі скарбу служыць менавіта беларускае слова.

**— Андрэй, не магу не задаць табе, як прадстаўніку нашай краіны ў нядаўнім “Літаратурным экспрэсе — 2000”, вось такіх некалькіх агульных пытанняў: што значыць літаратура ў сучасным свеце? чым адрозніваецца яе ўспрыняцце на Захадзе ад нашага? ці можаш у гэтым сэнсе вылучыць якія-кольвек тэндэнцыі, якія ты заўважыў там і якія неўзабаве дакоцяцца да нас?**

— На гэтыя сапраўды складаныя пытанні я магу даць толькі вельмі агульныя адказы. Прыватнага характару. Напрыклад, шведка Інга-Ліна, якой спадабалася мая шахматная аповесць “Цугцванг” і якую яна збіралася перакладаць на шведскую (смешна пытаючыся: “Што такое Дом быта? Што такое “Імперыял нуль сем”?”), дзівілася: “Калі ты прафесійны пісьменнік, чаму ў цябе няма літагента? Чаму ў цябе няма камп‘ютэрнага адраса?” Я паўдня даводзіў ёй розніцу паміж літаратурай “для душы, сапраўднай” і літаратурай камерцыйнай, якую шмат хто вымушаны пісаць дзеля грошай і пад псеўданімамі; растлумачыць не змог. А мне было дзіка чуць, што, напрыклад, у той жа Швецыі авансам маладому пісьменніку можа быць прызначана пажыццёвая пенсія. Калі ласка, пішы, пакуль малады, набірайся сіл, можа, калі-небудзь праславіш шэдэўрам сваю радзіму, а не атрымаецца — нічога страшнага! Або — у Францыі пісьменніку могуць асобна плаціць за права першай публікацыі на французскай мове; пасля, безумоўна, ён можа выдавацца на якой заўгодна, але першымі, будзь ласкавы, няхай з тваім творам азнаёмяцца суайчыннікі. І гэта правільна. Гэта проста здорава (скажам, цяжка ўздыхнуўшы...).

Тэндэнцыі, якія дакоцяцца да нас... У канцы мінулага года з Берліна я атрымаў ладны пакет. Сярод іншага быў там адзін цікавы дакумент, пад назвай “Міжнародная літаратурная сетка”. Можна звярнуцца да яго і сёе-тое працытаваць. “Умовы існавання літаратуры як жанру, — пішацца там, — падвергліся значным зменам. На нашых вачах адбываецца працэс аддзялення паэтычнага зместу ад прывычнай формы — кнігі. Вусныя формы перадачы літаратуры і інтэракцыі... усё больш выходзяць на першы план. Літаратура, калі яна хоча выжыць як від мастацтва, павінна асэнсаваць сябе часткай свету камунікацыі, які радыкальна змяняецца. Яе галоўнай рысай становіцца глабалізацыя... Для ўздзеяння ў сусветным маштабе літаратуры як віду мастацтва, звязанаму з мовай, неабходныя ў большай меры, чым іншым відам мастацтва, пераклад і перакладчык...”

Што-небудзь зразумела? Ад сябе магу толькі дадаць: пісьменнік у сучасным свеце павінен ведаць англійскую мову, павінен мець выхад у Інтэрнет і рыхтавацца да глабалізацыі. Гэта непазбежнасць.

**— Але пакуль, Андрэй, тая глабалізацыя, не мог бы ты падзяліцца сваімі найбліжэйшымі творчымі планамі? Ад цябе ж чуў, што ты нядаўна закончыў новую аповесць. Пра што яна? Што за жанр?**

— Нават дзве аповесці. Адну пісаў два гады, другую два месяцы. Першая — пра Слуцкае паўстанне, нядаўна выйшла ў 3-м нумары часопіса “Полымя”, аповесць вельмі складаная ў тым плане, што я “ўкінуў” у яе занадта шмат сябе — не ведаю, ці зразумела кажу... “Няхай у маім літаратурным гардэробе будзе вісець” і гэты шэры слуцкі шынель.

А другую пісаў лёгка і радасна (вызваліўшыся ад “слуцкай катаргі”), яна авантурна-дэтэктыўна-прыгодніцкая, аднолькава адрасаваная і дарослым, і падлеткам. Як і “Талер”, хачу прапанаваць аповесць часопісу “Маладосць”, а пасля, магчыма, перакласці на рускую мову.

**— І напрыканцы, Андрэй, ужо традыцыйнае пытанне нашай газеты: пра што б ты хацеў, каб зайшла гаворка на II з‘ездзе настаўнікаў?**

— М. Горкі казаў, што ўсяму, што ёсць у яго добрага, ён абавязаны кнігам; забыў дадаць, што і настаўнікам (пазней, калі ён выбярэ ў настаўнікі Леніна, Дзяржынскага і Луначарскага, гэты промах горка адпомсціць яму...).

Ведаю, што ў настаўнікаў — зрэшты, як і ва ўсіх — праблем вышэй галавы; спадзяюся, што хоць самыя галоўныя, хоць часткова будуць пастаўлены на з‘ездзе і вырашаны. Разам з тым баюся, каб усё не звялося да выключна меркантыльных пытанняў. Выступоўцы на з‘ездзе мусяць найперш успомніць першародны сэнс слова НАСТАЎНІК — ад настаўляць на шлях праўдзівы (па магчымасці, канечне). Чэхаў некалі выціскаў з сябе па кроплі раба — мы ж, і дзеці нашыя, вёдрамі павінны выліваць з сябе тую хлусню і брыдоту, якою нас так старанна напампоўваюць. Вось тут і патрэбна дапамога Настаўніка. Калі ён сам для сябе не вызначыць цвёрдай грамадзянскай пазіцыі, калі ён будзе лічыць, што дастаткова прафесіяналізму і вузкай спецыялізацыі — мала верагодна, што выхаванцы яго стануць сапраўднымі патрыётамі Беларусі, ды і ўвогуле па вялікім рахунку людзьмі...

**Мікола ЧЭМЕР.**

